Opłatę pocztową uiszczono ryczałtem.

Цана асобнага нумару 20 грош.

# БЕЛАРУСКАЯ НІВА

Выходзіць тры разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12 — 6. (Wilenska 12. m. 6).

Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзен. Адміністр. ад 9 да 3

Падпіска на адзін месяц з дастаукай да хаты 2 зл. Для заграніцы удвая даражэй.

**Перамена адрэса 30 грошы.**

Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грош. і на 4 стр. 15 гр., за радок пэтыту ў 1 шп.

№. 12. Вільня, Серада, 30-га сьнежня 1925 г. Год I.

У гэтым нумары 6 страніц.

## З Новым Годам!

— „З Новым Годам!“

З гэткімі славамі, згодна з традыцыяй адвечнай, зварачаемся мы сяньня да ўсяго беларускага народу—да нашае працоўнае вёскі і работніцкага места, да ўсяе непадзельнае сям‘і беларускіх рабачаяў, што служаць сваёй Бацькаўшчыне працай мускулаў ці інтэлекту свайго.

У гэтым традыцыйным вітаньні зьмяшчаецца глыбокая вера людзей у лепшую будучыну, у сталы поступ людзкасьці на дарозе да агульнага шчасьця і зьдзейсьненьня высокага ідэалу волі. Які-б благі ні быў сёньняшні дзень, заўсёды чалавек хоча верыць, што заўтра будзе лепей!

Гэтая вера—часта напоўсьвядомая—гэта наш вялікі, бясцэнны скраб. Бяз гэтае веры нельга было-б ані жыць, ані — тым балей — змагацца і перамагаць.

І яна ўсім апраўдываецца жыцьцём—прынамся паскольку справа йдзе аб жыцьцё не адзінак, а цэлых народаў. Раз народ жыве, ён ня можа спыніцца ў сваім росьце, у ўзбагачваньні сваіх духовых і матэрыяльных скарбаў. Інакш яму пагражае нямінучая сьмерць...

Народ беларускі і гісторыя яго адраджэньня якраз і выяўляюць гэтую вялізарную творчую сілу, якая захавана ў жывым народзе. Ад паднявольчага, забітага, загнанага батрака-беззямельніка, ня ведаўшага нават свайго імя, беларус за 25 гадоў адраджэнскае працы дарос да таго, што стаўся дзяржаўным валадаром сваей роднай зямлі!

Калі-б ня вера ў жыцьцёвую сілу беларускага народу, дык тая жменька ідэйных павадыроў яго, якая чверць веку назад падняла адважнай рукой сьцяг Адраджэньня, мусіла-б думаць, што на нашых вачох стаўся цуд...

Але цудаў ня бывае.

Жывы народ *мусіць* расьці—і расьце!

Не на ўсенькім абшары Беларусі гэты рост адбываецца аднолькавым тэмпам: у розных варунках ён ідзе розна. Інакш на Усходзе, інакш—на Захадзе. Інакш пад уладай працоўных, інакш—буржуазіі.

Але канчаткавая мэта, канчаткавы рубеж нашага адраджэнскага руху, нашага змаганьня за беларускую ідэю — і тут, і там аднолькавыя: і тут, і там беларус імкнецца да таго, каб увайсьці ў сям‘ю вольных народаў, як роўны другім, стацца поўным гаспадаром на сваёй зямлі, дайсьці нацыянальнага, палітычнага і сацыяльнага вызваленьня.

І кожны год, хоць мо‘ ня ў роўнай меры, набліжае нас да гэтае мэты. Наблізіць нас да яе мусіць і гэты год, які толькі што нарадзіўся. Праз той туман, які спавівае прад намі будучыну, наш ідэал бачыцца нам з кожным годам усё бліжэйшым, усё больш выразным—зьдзейсьненым.

Дык-жа—„з Новым Годам!“

* * *

Мы прывыклі казаць:
Новы год! прыдзі к нам...
Хто нам можа што даць?
— Мы! ты сам!
Калі будзем мы спаць—
Будзе лепей панам...
Хто нам можа што даць?
— Мы! ты сам!
Нам ня трэба чакаць
Покі прыдзе хто к нам,
Хто нам можа што даць—
— Мы! ты сам!

**Малады.**

# ЗА МІНУЛЫ ГОД.

## Беларускае палітычнае жыцьцё у 1925 годзе.

### У ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ.

Палітычнае жыцьцё беларусаў пад уладаю Польшчы выяўлялася — паміма праяваў настрою нездаваленьня ў масах — галоўным чынам у **парляманцкім змаганьні** за элемэнтарныя людзкія сацыяльна-палітычныя і культурна-нацыянальныя правы беларускае люднасьці Заходняе Беларусі.

Але бадай ніводзін год ня прынёс беларусам гэтулькі горкіх расчараваньняў, адносна да **вынікаў** парляманцкага змаганьня, як мінулы. Усе тыя законы, якія праводзіліся ў Сойме нібы-то на карысьць беларусаў, на дзеле аказаліся пустым гукам, калі ня прост шкоднымі: найярчэйшым прыкладам гэтага служаць так-званыя „языковыя законы“—аб навуцы ў школах у роднай мове, выданыя 31 ліпня 1924 году, якія ня толькі ня далі нам ніводнае школы з навукай пабеларуску, як таго дамагаецца наш народ, але наадварот: дапамаглі польскаму ўраду зьліквідаваць астачу істнаваўшых да выданьня гэных законаў беларускіх пачаткавых школ! А што-ж казаць ужо аб такіх законах, якія выразна скіраваны проці і на шкоду беларускага народу, як знамянітая „зямельная рэформа“, што беларускую зямлю аддае польскім асаднікам? Пры праводжаньні ў Сойме гэткіх законаў голасу нашых паслоў ніхто ня слухаў і з ім ня лічыўся. Ня меў ён ніякага послуху ў Польшчы і тады, калі нашыя паслы пратэставалі проці чыненых адміністрацыяй гвалтаў над беларусамі: яго слухала толькі... заграніца! Ды ўрэшце польская ўлада зусім пазбавіла нашых паслоў свабоды слова на справаздаўчых вечах, паставіўшы іх у залежнасьць ад ласкі ці няласкі паноў старостаў...

Расчараваньне беларускіх масаў у тых спадзяваньнях, якія ўсе ў нас пакладалі на парляманцкую барацьбу ў мамэнт выбараў у Сойм і Сэнат, прымусіла выбранцаў нашага народу шукаць нейкага новага выхаду з несьцярпімага палажэньня, у якім знаходзіцца беларускі народ пад Польшчай.

Пакуль людзі йшчэ спадзяваліся на тое, што праз сваіх паслоў у Сойме мы здолеем дабіцца правядзеньня ў жыцьцё ўсіх тых нашых правоў, якія забясьпечаны—прынамся на паперы! — польскай канстытуцыяй і міжнародавымі трактатамі,— дык здавалася, што і шлях нашага соймавага прадстаўніцтва зусім ясны і выразны: ісьці ўсім аднэй грамадой, адзіным фронтам. Калі-ж прышлося прызнаць, што спадзявацца нам ад польскага Сойму—нечага, калі нашы дэпутаты пачалі шукаць **новых дарог**,—дык тут адзіны нацыянальны фронт пачаў хістацца, і сярод беларускіх паслоў пачалі выяўляцца вельмі глыбокія ідэйныя разыходжаньні.

Выявіліся два галоўныя напрамкі. З аднаго боку, высказываўся пагляд, што беларускага пытаньня, як і нацыянальнага пытаньня наагул, сучасныя буржуазныя дзяржавы вырашыць ня могуць і ня вырашаць. Толькі перамога працоўных масаў у сусьветнай барацьбе працы з капіталам можа даць правільную разьвязку нацыянальнага пытаньня наагул, як гэта зроблена ў ССРР, — ды толькі ў еднасьці з працоўнымі мест сярмяжная бедната вёскі здолее выявіць сваю волю і ўзяць у свае рукі ўладу, якая дасьць ей і даўно жданую зямлю. У сувязі з яўным завастрэньнем сацыяльнае барацьбы ў Польшчы, у сувязі з тымі лёзунгамі, якія абвяшчаюцца заpraўдным авангардам польскага пралетарыяту, — гэты ідэйны кірунак згуртаваў найбольш актыўныя і найбольш радыкальныя элемэнты спасярод беларускіх паслоў, якія выйшлі з складу Беларускага Пасольскага Клюбу і стварылі сваю асобную арганізацыю—**Беларускую Сялянска-Работніцкую Грамаду**. У склад яе ўвайшлі паслы: Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі, Мятла і Валошын.

Па зусім іншым шляху пайшла другая група беларускіх дэпутатаў. Спасярод астаўшыхся ў Беларускім Пасольскім Клюбе паслоў—два: Ярэміч і Рагуля—замест злучаць вёску з работніцкімі масамі мест, а вызвольную барацьбу свайго народу—з такой-жа барацьбой другіх паднявольных народаў,—пачалі прапаведываць адмежаваньне сялянства ад мястовага работніцкага руху, агранічэньне шырокага беларускага вызвольнага руху вузкімі рамкамі чыста вясковых спраў і інтарэсаў, пазбаўляючы гэтак вёску магутнага і зусім натуральнага саюзьніка ў асобе пралетарыяту места. Гэтыя два паслы, ня выходзячы з БПК, прыступілі да арганізаваньня Беларускага Сялянскага Саюзу. У аснову ідэалёгіі яго паклаўшы зусім абмылковы пагляд, быццам паміж інтарэсамі вёскі і працоўных места істнуе непрымірымая супярэчнасьць.... Вось гэты пагляд, а таксама вузкі нацыяналізм тварцоў БСС, які прызнае, што на Беларускай зямлі з поўні грамадзкіх правоў могуць карыстаць толькі грамадзяне беларускае нацыянальнасьці (прыкладам: пры надзяляньні зямлёй!),—ня суліць новай арганізацыі адыграць паважнейшую ролю ў беларускім жыцьці: яна астанецца збоку ад ходу падзеяў.....

Рэшта сяброў Беларускага Пасольскага Клюбу, апрача пасла кс. Станкевіча—прадстаўніка беларускіх хрысьціянскіх дэмакратаў, выразнага абліччя не выяўляе. Трэба думаць, што БПК у сваім цэлым і далей абмяжуецца вядзеньнем старое парляманцкае барацьбы, тэй барацьбы, якая выявіла сваё банкруцтва асабліва якра ў самы апошні час—пасьля стварэньня пэпээсаўска-эндэцкае каліцыі і ўраду паноў Скшыньскага—Ст. Грабскага—Морачэвскага....

Банкруцтва ідэі парляманцкае барацьбы, расслаеньне, якое адбылося на гэтым груньце ў нашым парляманцкім прадстаўніцтве—свайго роду беларускім „малым парляманьце“, выхад Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады на шырокі шлях **супрацоўніцтва дзьвюх найвялікшых сілаў сьвету: селяніна і работніка** — да таго-ж у рамках магутнага, неперaможнага **сусьветнага руху працоўных да волі і ўлады,** — вось найважнейшы мамэнт у беларускім палітычным жыцьці Заходняй Беларусі ў 1925 годзе. Мы ўваходзім у 1926 год **з новымі шырокімі кругазорамі.**

Але кругазоры гэтыя грунтуюцца не адно толькі на тым, што тая ці іншая група паслоў вызначае новы шлях палітычнае працы: падставай іх зьяўляецца перад усім **нязвычайна сільны ўзрост сацыяльнае і нацыянальнае сьвядомсьці беларускае масы—як у вёсцы, так і ў месьце**. Барацьба за родную школу, выступленьне 15,000 бацькоў з дамаганьнем беларускае школы ў працягу ўсяго толькі двух месяцаў (люты—сакавік) — ці-ж гэта не пераконываючае выяўленьне нацыянальнае сьвядомасьці беларускае вёскі? А мартыралёгія нашых прыватных школаў? А тыя палітычныя працэсы бяз ліку, абапертыя ў большасьці выпадкаў на правакацыі, тыя масавыя вобыскі і арышты сярод беларускіх сялян, аб якіх усьцяж чытаем у газэтах, — ці-ж гэта не красамоўны доказ, якія ідэі і імкненьні—палітычныя і сацыяльныя—пануюць у беларускай вёсцы? А праявы беларускага руху сярод мястовых работнікаў нашага Манчэстэру — Беластоку, або Горадні і Вільні, — ці-ж гэта ня знак, што **мястовы работнік у Заходняй Беларусі ўжо зразумеў усю вагу саюзу барацьбітаў места і вёскі і падае руку свайму сярмяжнаму саюзьніку?**

Вось зусім об‘ектыўныя падставы, на якіх грунтуецца ідэалёгія новага цэнтру беларускага руху ў Зах. Беларусі—Сялянска-Работніцкае Грамады,—падставы, на якіх ужо дваццаць гадоў назад манілася абаперці беларускае адраджэньне першая беларуская сацыялістычная арганізацыя—Беларуская Сацыялістычная Грамада. На гэтых падставах збудавалася і будуецца далей жыцьцё беларускага народу на Усходзе. На іх — і толькі на іх!—збудуецца і на Захадзе.

### У ЛАТВІІ.

За апошнія гады беларуская праца ў Латвіі разьвівалася ў двух розных напрамках.

З аднаго боку мы бачылі групу шчырых беларускіх культурнікаў, якія йшлі выразным шляхам будаваньня ў латвійскай частцы нашае Бацькаўшчыны фундамэнтаў беларускае культуры, лічучы, што толькі на гэткіх фундамэнтах можа адбывацца такжа і палітычнае ды сацыяльнае адраджэньне тамтэйшых беларусаў. Гэтая група пайшла па шляху гуртаваньня элемэнтаў, якія кіраваліся выключна ідэйнымі пабуджэньнямі і стаялі шчыра і нязьменна на беларускім груньце, не дапускаючы ніякіх кампрамісаў ані хістаньня ў нацыянальным самавызначэньні: калі ты беларус, дык ты ня можаш адначасна быць расейцам ці паляком —Другая група, хоць на чале яе сталі таксама бясспрэчна ідэйныя беларусы, манілася адным ударам разьвязаць беларускае пытаньне ў Латвіі, не „акапаўшыся“ перш, як гэта робіцца на вайне, не стварыўшы загадзя крэпкага, верна-

га свайму штандару аж да сьмерці ядра. Ганяючыся за сколькасьцяй і таннымі трыумфамі, гуртуючы пад беларускім сьцягам элемэнты, часта ідэйна-варожыя беларускай справе, гэтая група не здалела знайсьці навет магчымасьці аб'яднаць сваю дзейнасьць з тэй першай, якая і магла-бы паслужыць пэўным, моцным, нязломным ядром для беларушчыны ў Латвіі.

Вынікі гэткага разьдзяленьня аказаліся дужа сумнымі. Акрыяўшы пасьля ўмацаваньня Латвійскае дзяржавы латышскі нацыяналізм распачаў паход проці „сваіх“ меншасьцяў, пачаўшы нанасіць удары ў першы чарод найменш з'арганізаваным і найменш сьвядомым беларусам. Разумеючы, што існаваньне крэпкага ядра сьвядомых беларусаў найбольш небясьпечна для жываедзкіх плянаў латышскага нацыяналізму, прадстаўнікі апошняга, дарваўшыся да ўлады, хутка разграмілі гэную групу культурнікаў, на чале якой стаяў выдатны беларускі дзеяч і культурны працаўнік, тварэц і дырэктар дзьвінскай беларускай дзяржаўнай гімназіі, Краскоўскі. Сфабрыкаваўшы „палітычны працэс“ проці найбольш актыўных беларусаў, які, як ведама, скончыўся поўным апраўданьнем падсудзімых і скандалам для латвійскае дэфэнзывы, латвійскі ўрад дапяў сваей мэты і выкінуў з краю рад выдатных беларускіх сіл.

Памагло ў гэтым латвійскаму ўраду тое, што у латвійскім сойме беларусы ня мелі ніводнага дэпутата, які мог-бы публічна выступіць проці ўсіх наскокаў на беларусаў з боку „власть имущих“. І вось сёлета—у часе выбараў новага сойму ў Латвіі—тамтэйшыя беларусы першы раз пайшлі на выбары з сваім уласным сьпіскам — з грам. Езавітавым на чале. Пачалася шырокая арганізацыя беларускіх выбаршчыкаў. У Рызе заклаўся беларускі палітычны орган „Голас Беларуса“. Але ўсе стараньні скончыліся няўдачай: беларусам не ўдалося здабыць ніводнага мандату...

Чаму?—Бо—з аднаго боку—народ быў запалоханы ўрадавымі рэпрэсіямі проці беларусаў і ўспамінам аб скандальным працэсе, а також канкураваўшымі з беларусамі расейскай і польскай групамі, з другога-ж —кіраўнікі выбарнае акцыі, замест выразна пайсьці на чыста беларускі шлях, ашукавалі сябе надзеяй, што за імі пойдуць здэнацыяналізаваныя, абмаскоўленыя беларусы, калі свайму органу яны дадуць нейкі падвойны беларуска-расейскі характар, калі будуць сваю газэту выдаваць у двух мовах — беларускай і расейскай уперамешку. Вынікам гэтае нявыразнасьці і было тое, што беларусы-каталікі, заўсёды вельмі недаверчывыя да ўсяго, што пахне маскоўшчынай, зусім не пайшлі на выбары, ці-то па камандзе ксяндзоў аддалі свае галасы палякам, а абмаскоўленыя беларусы галасавалі за расейскія сьпіскі... Дый з боку сацыяльнае праграмы беларускі выбарны камітэт мала каго здаволіваў.

Але ўсё-ж такі стварэньне ў Латвіі беларускае палітычнае арганізацыі і беларускае палітычнае часопісі, а так-жа факт самастойнага выступленьня з беларускім сьпіскам на выбарах — усё гэта праявы дужа памысныя. Кіраўнікі беларускага руху ў Латвіі, пэўне-ж, добра зразумеюць свае абмылкі, якія выявіліся ў выніках выбарнае кампаніі і ў яе няўдачы, ды знойдуць тую лінію, якая давяла да перамогі беларусаў у Заходняй Беларусі—падчас выбараў у Польскі Сойм і Сэнат у 1922 годзе.

Беларускае палітычнае жыцьцё ў Латвіі ў мінулым годзе скранулася з мёртвага пункту і ўжо ня спыніцца.

## НА ЭМІГРАЦЫІ.

Мінулы год прынёс многа важнага і для жыцьця беларускае палітычнае эміграцыі заграніцай.

Пасьля таго, як партыя беларускіх эсэраў 13 сьнежня 1919 году развaліла Раду Беларускае Народнае Рэспублікі і парвала ўсялякую сувязь з Першым Усебеларускім Зьездам 1917 году, група радных-эсэраў утварыла свой чыста партыйны „прэзыдыум“ Рады Рэспублікі і свой „урад“ Беларусі. На чале эсэраўскае „Рады Рэспублікі“ стануў грам. Крачэўскі, на чале „ўраду“ — грам. Ластоўскі.

Узяўшы на сябе адказнасьць за долю беларускага народу, партыя эсэраў, пасьля цэлага раду авантурных выступленьняў яе павадыроў („прадажа“ Літве Віленшчыны і Горадзеншчыны, зносіны з расейскімі манархістамі і г. д.), аканчальна развалілася. Усе актыўныя рэвалюцыйныя элемэнты перайшлі ў Камуністычную Партыю Беларусі. Толькі невялічкая жменя павадыроў эсэраўскае партыі, апынуўшыхся заграніцай, далей прадстаўляла „ўрад БНР“ і наіўна трэбавала, каб край падпарадкаваўся іх дырэктывам і загадам, як быццам запраўднаму ўраду Беларусі.

Ведама, у краю яны ніякага послуху ня мелі. Нічым не апраўдаўшы сваей сьмеласьці прадстаўляць увесь беларускі народ бяз згоды яго, сябры „ураду“ хутка пачалі грызьціся між сабою—за той цень улады, якую хацелі прадстаўляць. У выніку гэнае грызьні, толькі кампрамітаваўшай беларусаў перад заходнімі дзяржавамі, грам. Ластоўскі быў прымушаны пакінуць свае „высокае становішча“, і мейсца яго заняў грам. Цьвікевіч, як галава „ураду“.

Тымчасам жыцьцё йшло зусім ня тым ходам, як гэтага спадзяваліся нашы палітычныя эмігранты ў Заходняй Эўропе. Тварэньнем беларускае дзяржаўнае арганізацыі на Усходзе Беларусі заняліся другія элемэнты, і вось у Менску утварылася запраўдная беларуская ўлада — дзеля абшару Беларускае Сацыялістычнае Радавае Рэспублікі. У Заходняй-жа Беларусі стварылася выбарнае прадстаўніцтва ўсяго беларускага насяленьня яе, зложанае з беларускіх паслоў варшаўскага Сойму і Сэнату.

Гэтак і на Усходзе і на Захадзе Беларусі утварыліся правамочныя выбарныя народныя прадстаўніцтвы, і для далейшага існаваньня „ураду БНР“ заграніцай — асабліва-ж пасьля ліквідацыі стварыўшае яго партыі эсэраў—не аставалася ўжо ніякага сэнсу. Наадварот: каб палажыць канец усім тым брудам, якімі перад Эўропай аблівалі сябе ўзаемна „прадстаўнікі“ беларускага народу, трэба было чым хутчэй разрэзаць скулу і зьліквідаваць „урад“. Мінулы год і прынёс нам гэтае.

14 кастрычніка ў Бэрліне адбылася Нарада дэлегатаў эмігранцкіх беларускіх груп разам з прадстаўнікамі беларускага грамадзянства Літвы і Латвіі. Нарада гэная і занялася вырашэньнем усіх тых спраў, якія ўжо даўно ждалі на гэта. А перад усім — вырашэньнем пытаньня аб так-званым „урадзе БНР“.

Нарада станула на тым пункце гледжаньня, што галоўным цэнтрам беларускага адраджэнскага руху стаўся цяпер Менск, ды што імкненьні Радавае Беларусі йдуць у кірунку зьдзейсьненьня нацыянальна-дзяржаўнага ідэалу беларускага народу. Нарада адзначыла свае пажаданьне, каб усе беларускія землі—як Заходняе Беларусі, так і не ўвайшоўшыя ў склад Радавае Беларусі ўсходнія акраіны яе—былі злучаны ў адно цэлае. Нарада асудзіла фактычна ўсю палітыку „ўраду“ ў адносінах да Літвы і акт „падараваньня“ Літве Віленшчыны і Горадзеншчыны, асудзіла, урэшце, і тую „крыўскую“ прапаганду, якую за літоўскія грошы вядуць некаторыя з дзеячоў на эміграцыі і ў Літве, ды якая імкнецца зрабіць нейкі новы падзел адзінага і суцэльнага беларускага народу.

Вось тая жменя вёстак, якія толькі цяпер дайшлі да нас у пастаці рэзалюцыяў Нарады. Рэзалюцыі гэтыя мелі той вынік, што ўжо назаўтрае—15 кастрычніка 1925 году—так-званы „ўрад“ ці „рада народных міністраў Беларускае Народнае Рэспублікі“ на паседжаньні сваім у Бэрліне ў складзе: А. Цьвікевіча, В. Захаркі, Л. Зайца і В. Пракулевіча—прыняў такую пастанову:

**„Абвясьціць ад сёньняшняга дня Урад Беларускай Народнай Рэспублікі зьліквідаваным і спыніўшым сваю дзейнасьць“.**

Пасьля гэтага блізу ўсе эмігранцкія палітычныя дзеячы, карыстаючыся абвешчанай ім у Радавай Беларусі амністыяй, паехалі ў Менск — дзеля аддачы тамака сваіх сіл будаваньню Бацькаўшчыны. Ад усяго шумнага назову „ўраду“ і „рады рэспублікі“ астаўся заграніцай адзін толькі чалавек—старшыня эсэраўскае „рады“, грам. Крачэўскі, які „остался при особом мнении“ і далей аблівае балотам усіх тых беларускіх дзеячоў, якія, зрокшыся „ласкавага“ хлеба на эміграцыі і поўнае бязьдзейнасьці там, паехалі на Бацькаўшчыну і аддалі свае сілы чыннаму служэньню ей. Крачэўскі апублікаваў у ковенскай газэце „Эхо“ пісьмо, у якім стараецца „ашэльмаваць“ сваіх учорашніх аднадумцаў і супрацоўнікаў, што яго „здрадзілі“....

Ліквідацыя „ураду БНР“ бязумоўна значна прычыніцца да аздараўленьня атмасфэры сярод беларускай палітычнай эміграцыі заграніцай і верне краю рад паважных сіл дзеля творчае працы дома, дзеля якое трэба так многа рук! І гэта — таксама адзін з важнейшых мамэнтаў у беларускім палітычным жыцьці за мінулы год.

---

Аб палітычным жыцьці беларускае калёніі ў Літве, ці, правільней, у сталіцы Літвы—Коўні, у мінулым годзе ня было ніякіх годных увагі праяваў, апрача таго, што супрацоўніцтва тамтэйшых беларусаў з літоўскім урадам аканчальна зьліквідавалася. Стары „флірт“ з Літвой вядуць яшчэ толькі двое людзей: грам. Ластоўскі і Душэўскі, дый іх деяльнасьць абмяжоўваецца адно толькі выдавецтвам беларускіх кніжак і журнала „Крывіч“, ды прапагандай замены імя „беларусы“, „Беларусь“—на „Крывічы“, „Крывія“...

## Культурныя здабыткі за 1925 год.

Калі, гаворачы аб беларускім палітычным жыцьці, можна і трэба дзяліць агляд яго на жыцьцё розных часьцін нашае Бацькаўшчыны, — дык беларускае культурнае жыцьцё прыходзіцца разглядаць, як нешта суцэльнае, незалежна ад падзелу жывога народу гранічнымі межамі: культурны прыбытак беларусаў у розных часьцінах Беларускае зямлі прадстаўляе нашае агульна-нацыянальнае багацьце, і ніякія межы ня могуць загарадзіць ці спыніць лёт творчага духа народу.

Пры ўсім убожстве беларускага культурнага жыцьця ў Заходняй Беларусі, якая можа пахваліцца адно толькі сваім багатым музэем, сабраным Іванам Луцкевічам і дапаўняным памаленьку супольнымі высілкамі грамадзянства—пад кіраўніцтвам Беларускага Навуковага Т ва,—дый 2—3 беларускімі гімназіямі, ведзенымі з нязвычайнай труднасьцяй і цяжкімі ахвярамі групы ідэйных працаўнікоў, — мы можам з гордасьцяй гаварыць

---

# Адраджэньне беларускага малярства.

### Старая і народная творчасьць.

Кожны раз, як нам даводзілася гаварыць аб беларускім мастацтве, паскольку гэта адносілася да малярства і розных відаў рысунку, — мы мелі на думцы толькі два роды малярства і аздобніцтва: старадаўнае і народнае. Першае абыймала перад усім беларускую іконапісь, у якой бачым вельмі цікаўнае і характэрнае для ўсяго нашага культурнага жыцьця зьліцьцё ўплываў усходнябізантыйскіх і заходніх; другое—народныя ўзорыстыя тканіны—гунькі, паяскі, рушнікі, крашаніну, аздобы на вырабах з дрэва, „пісанкі“ (маляваныя яйкі), урэшце так-званыя „лубкі“ — рамесьніцкія рысункі, выразаныя на лубе і рознымі калёрамі адбіваныя на паперы. Вось, бадай і ўсё ў межах малярства і графікі, што мы дагэтуль мелі і аб чым маглі гаварыць.

Але рост нашага культурнага жыцьця і ў гэтай галіне мастацкае творчасьці прыносе нам важную навіну: сьледам за адраджэньнем беларускае літэратуры, беларускае музыкі і беларускага тэатру, на сцэну выступае і **адраджонае — новае — беларускае малярства.** І вось, ня кажучы ўжо аб працах распыленых па ўсей Беларусі паадзінокіх беларускіх мастакоў-маляроў, большасьць якіх працавала дагэтуль для расейцаў і палякоў, мы бачым урэшце **зборнае, аб'яднанае выяўленьне самастойнае беларускае мастацкае творчасьці.**

Якраз на парозе новага году ў Менску адчынілася **Першая Усебеларуская Мастацкая Выстаўка.** Зьяўляючыся выстаўкай ня чыста нацыянальнай, а тэрыторыяльнай, яна абняла і прадставіла нам сучасны стан мастацтва перад усім дзьвюх нацыянальнасьцяў Усходняе Беларусі: **беларускага і жыдоўскага.**

### Падрахунак новых сіл.

Вельмі цікаўны **„падрахунак мастацкіх сіл“** Беларусі, як яны выявіліся на менскай выстаўцы, дае праф. М. Шчэкаціхін у адным з апошніх нумароў „Сав. Бел.

Вось, што ён піша:

„У колькасным сэнсе падрахунак, зроблены выстаўкай, можа лічыцца навет болей, як здавальняючым: 85 мастакоў, ня лічачы вучняў, і больш за 1100 экспанатаў—гэтыя лічбы амаль у два разы перавысілі папярэднія разрахункі, выявіўшы цэлую армію мастацкіх сіл, багаты матар'ял для нашага мастацкага будаўніцтва. Па якасьці, зразумела, матар'ял гэты не аднастайны, але досьць цікавы і заслугоўвае нашай ўвагі, паколькі можна судзіць з першага беглага агляду.

„Аснаўная рыса выстаўкі—гэта вядомая „рознакаляровасьць“, адсутнасьць адзінага аблічча і вузкай праграмнасьці. У даным выпадку гэта ня мінус, а плюс. Падрахоўваючы нашы сілы, мы будавалі выстаўку не па мастацка фармальных або ідэёвых прынцыпах, але чыста тэрытарыяльна, з тых, хто працуе на Беларусі, ці зьяўляецца яе ўраджэнцам. З гэтай прычыны ў мастацкім сэнсе на выстаўцы прадстаўлены самыя розныя мастацкія напрамкі. Якая вартасьць гэтых напрамкаў—высьветліцца пазьней у працэсе практычнае працы. Цяпер-жа можна толькі занатаваць іх і выявіць аснаўныя іх узаемаадносіны на выстаўцы“.

### Тры напрамкі.

„З фармальнага боку вызначаюцца тры паасобныя ўхілы: найбольшую масу складаюць натуралісты і рэалісты розных адценьняў, утвараючы здаровае і жыцьцёвае ядро; другім выразным і глыбока сваячасным напрамкам зьяўляюцца імкненьні да дэкарацыйнае стылізацыі на рэальнай і часта нацыянальнай аснове, з ухілам у бок практычнасьці, у бок прыкладнага мастацтва; трэцяя група, нарэшце, — напрамак стылізацыйнай умоўнасьці без практычнага дапасаваньня стылізаваных форм да якіх-небудзь прыкладных мэт.

„У першым **рэалістычным** напрамку выдзяляецца некалькі паасобных падыходаў: акадэмічна-натуралістычны—у працах Сьляпяна, Кругэра, Бэна, часткова настаўніка Віцебскага Тэхнікуму Воўкава; імпрэсыёністычны—у частцы карцін Кудрэвіча, таксама ў гомельскіх мастакоў Русецкага і Наўроўскага з суцэньнем вядомай „врубэлеўшчыны“; нарэшце — новыя фармальныя шуканьні на асновах спозьненага „сэзанізму“ — у Касталянскага, сярод мастакоў Менску і асабліва ў працах маскоўскае групы Вхутэмасаўцаў. Часткова да іх набліжаецца таксама Бразэр. Шмат якія з больш дробных мастацкіх сіл прытрымліваюцца звычайнага натуралізму па меры сваіх тэхнічных магчымасьцяў.

„Другі напрамак—**дэкарацыйна-стылізаваны**—характэрны галоўным чынам для Беларускага мастацкага тэхнікуму. Выходзячы з натуры, як паказваюць, напр., некаторыя вучнёўскія этюды і натурморты, напрамак гэты імкнецца да монумэнталізацыі натуры, або да арнамэнтальнага яе вырашэньня ў формах практычна-прыкладнага дэкарацыйнага мастацва. Часткова да гэтага-ж напрамку набліжаюцца некаторыя паасобныя мастакі і графікі. Апрача стылізацыі натуры, заслугоўваюць тут увагі таксама і спробы распрацоўкі **беларускага народнага і старажытнага арнамэнту**, — што мы ізноў сустракаем ня толькі ў працах тэхнікуму, але і ў іншых мастакоў, напр., у графіцы Тычыны.

„Нарэшце, трэці напрамак прадстаўлены цэлым шэрагам мастакоў, сярод якіх дзіўным чынам настаўнікі технікуму Эндэ і Лебедзева, а гэтаксама паасобныя экспонэнты: часткова Кудрэвіч, Быхоўскі, Юдовін і інш. Шмат якія больш дробныя ўхілы і варыянты асноўных напрамкаў мы, зразумела, ня маем магчымасьці тут зазначыць. У агульным вывадзе трэба толькі падкрэсьліць гэтую розьніцу напрамкаў і падыходаў, якая сьведчыць аб досыць значным багацьці нашых мастацкіх сіл“.

Аб далейшых выніках гэтага здарэньня пакуль-што судзіць рана.—але ў кожным выпадку гэта **грознае напамінаньне Англіі**: цяжка ей будзе ўтрымаць сваю ўладу ў Індыі, калі індыйскім незалежнікам падасьць руку помачы СССР!...

### Расейска-турэцкі дагавор.

Вялікую сэнсацыю зрабіла сярод „вялікіх", а запраўдны перапалох — у Англіі, вестка аб тым, што ў часе сваей візыты ў Парыжу Чычэрын падпісаў там новую ваенную ўмову СССР з Турцыяй.

Заграічная прэса піша, што гэты крок Чычэрына быў адказам СССР на Лёкарнскія пакты, а з боку Турцыі, гэта—адказ на пастанову Рады Лігі ў справе Мосулю.

Радавая прэса падчырківае вялікую вагу гэтай умовы для Турцыі, якая—у выпадку ваеннага канфлікту з Англіяй — мае забясьпечаныя свае ўзьбярэжжы з боку Чорнага мора, ад нападу англійскага флёту.

### Новы „Сусьветны Сабор".

Рымскі папа склікае ў 1926 годзе новы „Сусьветны Сабор", на якім мае быць каля 5000 дэлегатаў. Цікава, ці паедуць на заклік каталіцкага касьцёлу і праваслаўныя, і пратэстанскія папы?—Пэўна-ж—не...

А мо' з Польшчы і так?!...

### Нязгода сярод францускіх міністраў.

Толькі - што зрэфармаванаму францускаму габінэту ізноў пагражае крызіс на становішчы міністра фінансаў. Рад міністраў заявілі, што не згаджаюцца на фінансавыя праекты новага міністра Думэра і пагразілі адстаўкай.

Адначасна проці таго-ж міністра высказалася фінансавая камісія парляманту, якая апрацавала свой уласны праект—замест прадстаўленага Думэрам. Спрэчка йдзе аб тры мільярды франкаў новых налогаў, бо міністар хоча спагнаць новых налогаў 4 з паловай мільярды, а камісія не дае больш, як паўтара.

У зьвязку з пагрозай новага крызізу франк, які быў падняўся трохі, ізноў значна паляцеў уніз...

### Зачыненьне манархічных арганізацыяў у Францыі.

Рада міністраў пастанавіла спыніць дзейнасьць манархічных антыжыдоўскіх арганізацыяў.

### Узнаўленьне наступленьня Абд'Эль Крыма.

„Калі хочаш міру, рыхтуйся да вайны", казала старажытная лацінская прыказка. І вось, Абд'Эль Крым, паслаўшы ў Парыж свайго афіцыяльнага паўнамоцніка дзеля мірных перагавораў з Францыяй, адначасна ўзнавіў у Марокко наступленьне на ўсім фроньце.

Ведама-ж — каб мець добрыя варункі міру, трэба, каб вораг ня думаў, што міру просіш, як пардону—ад слабасьці...

Вось цяпер і відаць, якая „праўда" пісалася і казалася афіцыяльна ў Францыі аб тым, быццам паўстаньне ў Марокко аканчальна задушана і Абд'Эль Крым—разьбіты дашчэнту..

### Учасьце Амэрыкі ў канфэрэнцыі аб разбраеньні.

Прэзыдэнт Амэрыканскіх Штатаў пастанавіў на сваю адказнасьць прыняць учасьце ў скліканай Лігай Народаў канфэрэнцыі ў справе агульнага разбраеньня. З працы толькі - што адбыўшаеся сэсіі Рады Лігі ў справе гэтай канфэрэнцыі ясна відаць, што спрэчкі між дзяржавамі аб тым, каму і як разбраівацца, зацягнуліся-б прынамся на паўгода... А ўрэшце—вялікія дзяржавы абмежавалі-б свае „разбраеньне" тым, што замянілі-б старое аружжа і старыя ваенныя караблі на новыя,—лепш забіваючыя і руйнуючыя, як гэта—ў выніку Вашынгтонскай канфэрэнцыі — зрабіла Англія..

### Генарал Фэнг узяў Цянь-Дзін.

З Лёндану паведамляюць, што вестка аб узяцьці народнай арміяй ген. Фэнга важнага манчжурскага места Цянь-Дзіна пацьвярджаецца. Гэткім чынам народная армія валадае цяпер усей Манчжурыяй, за выняткам абшараў, акупаваных Японіяй. Дык настаў найбольш драматычны мамэнт барацьбы за вызваленьне Кітаю,—бо паўстала пытаньне: ці ўзгарыцца вайна між Кітаем і Японіяй?!

## XIV Зьезд Расейскай Камуністычнай Партыі.

18-га сьнежня ў Маскве пачаўся 14-ты Зьезд Расейскай Камуністычнай Партыі.

На зьезд прыбылі 1.253 дэлегаты, якія зьяўляліся прадстаўнікамі 1 мільёну 25 тысяч арганізаваных сяброў і кандыдатаў Р.К.П.

З гэтага відаць, што за год партыя ўзрасла аж на цэлую траціну, бо на зьезьдзе мінулага году яна налічвала толькі 736.000 сяброў.

Старшынёй зьезду быў выбраны Рыкоў. У склад прэзыдыуму ўвайшлі ўсе правадыры партыі, не выключаючы і Троцкага.

5-гадзінны даклад ад імя Ц. К. зрабіў Сталін.

У дакладзе сваім ён падчыркнуў, між іншым, як вонкавую, таксама і ўнутраную стабілізацыю СССР і яго вялікую прыцягаючую сілу для ўсіх паняволеных народаў і ўсей міжнародавай работніцкай клясы. Паміма ўласнай аружнай сілы СССР, няменш паралізуе ўсялякія спакусы сусьветнага імпэрыялізму проці СССР сымпатызуючая апошняму нязломная воля ўсяго міжнародавага пралетарыяту. З другога боку, сам сусьветны капіталізм, а перад усім Амэрыка, баіцца вайны з СССР і жадае міру, Амэрыка—дзеля таго, што ў выпадку вайны яна страціла-б аканчальна ўсе свае ўложаныя ў Эўропу мільярды; капіталізм — дзеля таго, што заінтэрэсаваны ў тым, каб уцягнуць СССР у сусьветны гаспадарчы абмен.

У апошні год СССР прымаў ужо значнае ўчасьце ў гэтым тарговым абмене: з Амэрыкай — бавоўнай (хлапком), з Англіяй і Нямеччынай—збожжам.

Спыніўшыся даўжэй на важнай справе старых даўгоў царскай Расеі на калясальную суму 30 мільярдаў руб., якія маняцца спагнаць з народаў СССР азброеныя ліхвяры Захаду, Рыкаў сказаў, што, калі навет прызнаць гэтыя даўгі, дык трэба выставіць узаемныя прэтэнсіі СССР на адшкадаваньне за шкоды, зробленыя краю ў часе аружных паходаў Денікіна, Калчака і Врангеля, фінансаваных тымі-ж ліхвярамі Захаду. Гэтых адшкадаваньняў урад СССР усяго налічыў на 20 мільярдаў руб. Скасаваць закон 1917 году аб ануліраваньні (скасаваньні) гэтых царскіх даўгоў, як гэтага трэбуюць Англія і Францыя, радавы ўрад рашуча адмовіўся. Сталін заявіў, што можа быць мова толькі аб пэўных дробных уступках пры перагаворах, дый то—на пэўных варунках, з якіх першым ёсьць — адчыненьне крэдыту СССР у англійскіх і францускіх банках. **Бязумоўна скасаванымі** ўрад СССР лічыць **ваенныя** даўгі царскага ўраду. Канфіскаваная маемасьць грамадзян-чужаземцаў можа быць вернена — шляхам новых канцэсіяў.

У справе міжнародавай палітыкі Сталін сцьвярдзіў далейшую барацьбу СССР за адбудаваньне на трывалых падставах сусьветнага міру. Радавы ўрад будзе далей раскрываць інтрыгі фальшывых пацыфістаў (міратворцаў) імпэрыялізму, найбольш пагражаючых гэтаму міру,—як напрыклад: Лёкарнскія Трактаты і т. п. Радавы ўрад будзе далей бязлітасна зрываць маскі з крывадушных твараў рознага роду міжнародных установаў, запраўднай мэтай якіх зьяўляецца панаваньне мацнейшых народаў над слабейшымі, — як напрыклад Ліга Народаў. Радавы ўрад мае далей узмацняць саюзы і сувязі прыязьні з усімі паняволенымі каляніяльнымі народамі ўсяго сьвету.

Што датычыць зблізкэньня з капіталістычнымі дзяржавамі, дык Сталін заявіў, што СССР перад усім будзе шукаць гэтага зблізкэньня з тымі дзяржавамі, якія найбольш пацярпелі ў мінулую вайну (Нямеччына, Баўгарыя і інш.).

Трэба адзначыць вельмі важны і новы факт у палітычным жыцьці і разьвіцьці партыі. Пасьля дакладу Сталіна з вельмі яркай і рэзкай крытыкай усіх яго думак і прапазіцыяў (ад імя Цэнтр. Камітэту!) выступіў сам старшыня Комінтэрну (III Камуністычнага Інтэрнацыяналу) Зіновьев. Зіновьев крытыкаваў даклад з пункту гледжаньня непрымірымай лявіцы Кам. Партыі, якая імкнецца не да ўваходу СССР ў мірны абарот сусьветнага гаспадарчага жыцьця з іншымі краямі, але да сусьветнай рэвалюцыі. Выступленьне Зіновьева выклікала вялікае хваляваньне на зьезьдзе, бо да таго палеміка з дакладчыкам Ц. К. аб асноўных справах і напрамку палітыкі лічылася недапусьцімай. Але трэба думаць, што для самога Ц. К. апазіцыйная крытыка Зіновьева не зьявілася неспадзяванкай. Яна толькі ясьней падчырківае, што адказны Радавы ўрад, кіраваны Кам. Партыяй, і Комінтэрн — зусім розныя, часта пярэчучыя адна аднэй установы.

## Палажэньне сялян у Румыніі.

Цікавы агляд палажэньня сялян у найблізкэйшай саюзьніцы польскай, Румыніі, дае „Walka Pracy".

Румынія, як і Польшча,—клясычны край нячуванага нідзе ў нашыя часы палажэньня сялянства. Ці была Румынія залежнай ці незалежнай, самадзяржаўнай ці „канстытуцыйнай"—усё роўна: варункі істнаваньня сялянства, аддадзенага ў кабалу „баярству" (шляхце-абшарнікам), асталіся заўсёды аднолькавымі. Калі ў выніку палітычных праменаў Сэрбія і Баўгарыя зрабіліся амаль ня чыста сялянскімі краямі, дзе сяляне здабылі сабе амаль ня ўсю зямлю, Румынія край — чыста абшарніцкі...

Цікава, што, вызваліўшыся з-пад панаваньня турэцкіх заборцаў" і здабыўшы сабе (з помачай Расеі) незалежнасьць, Румынія як-раз сталася найгоршым пеклам для сялянства: над „роднымі" абшарнікамі ня стала чужацкай турэцкай палкі... Бо-ж „вызваленьне Румыніі" было вызваленьнем толькі для яе фэадалаў-абшарнікаў.

Нарэшце сялянства ня вытрымала і — пад уплывам першай расейскай рэвалюцыі — у 1905—1907 г.г. пачаліся сялянскія бунты. А ў сакавіку 1907 г. вялікае сялянскае паўстаньне абхапіла ўвесь край...

Але, як заўсёды бывае, неарганізаванае, раскіданае сялянства, ня маючы адпаведных правадыроў, было пабіта па загаду паноў сялянскімі-ж рукамі — рукамі войска... Малась ведамы селянін ня меў яшчэ тады таго рэвалюцыйнага ўзгадаваньня, якое дала яму ўсюды на сьвеце — апошняя Сялянская Рэвалюцыя на Усходзе. Пры „ліквідацыі" паўстаньня пабіты дзесяткі тысяч сялян. Шмат вёсак былі папросту спалены й зраўнаваны з зямлёй агнём артылерыі. Ніхто ніякага апору помсьце абшарнікаў і буржуазіі ня мог аказаць, бо адзіны саюзьнік селяніна — мястовы работнік пралетарыят—амаль не істнаваў навет тады ў Румыніі.

Але кроў народная, як кажуць, — зусім асаблівы плаў: ня можа яна прапасьці дарэмна, навет калі народ не здабудзе яўнай перамогі. —Пасьля здушэньня паўстаньня пачаліся „рэформы" зьверху, а больш абяцанкі рэформаў—зямельнай і выбарнай—на карысьць сялянства. Але значна важнейшым было тое, што сярод сялянства першая спроба адкрытае барацьбы дала вельмі многа практычнай веды і рэвалюцыйнай сьведамасьці...

Пачалася самаарганізацыя сялянскіх сілаў, гуртаваньне, яднаньне сялянства; пачалося разьвіцьцё каапэрацыі і т. п... Але і тады пануючая буржуазія здолела апанаваць амаль ня ўсе эканамічныя пляцоўкі румынскага сялянства. Акурат таксама, як толькі што зроблена гэта з беларускай каапэрацыяй у Заходняй Беларусі...

Але вось прыйшла Вялікая вайна. Буржуазія пагнала і ў Румыніі сялянства на вялікую бойню народаў. З 7 мільёнаў насяленьня краю палягло на палёх бітв больш за мільён... Сялянскія гаспадаркі па ўсім краю былі амаль што не начыста выпалены знамянітым паходам Макензэна. І вось, каб падбіць сялян да „прадаўжэньня вайны да пабеднага канца", дый каб ратавацца пасьля вайны ад хвалі народнага гневу, — румынская буржуазія ня горш за самаго п. Пілсудскага абяцала сялянству — ад імя караля — усялякія палёгкі ў жыцьці, а перад усім—Зямлю і Волю...

Але можна быць пэўным, што з рук румынскай буржуазіі і абшарнікаў сялянства не атрымала-б ніякай зямлі ані волі, калі-б—калі-б не Расейская Рэвалюцыя. Каб неяк утрымаць захопленую гвалтам Бэсарабію, румынская ўлада зрабіла спробу прыгарнуць да сябе бесарабскае сялянства. У адказ на гэта сяляне ў Бэсарабіі пачалі папросту самі адбіраць зямлю — сьпярша ад расейскіх абшарнікаў, на што ўлады глядзелі досьць прыхільна, а пасьля магутны рух перакінуўся і ў Румынію. Тут ужо румынская пануючая буржуазія пайшла на пэўную капітуляцыю — асабліва, калі ў склад дзяржавы ўвайшлі адабраныя ад Вэнгрыі і Аўстрыі вялізарныя краіны, у якіх сялянства стаяла значна вышэй эканамічна і культурна, і палітычна.

І вось толькі ў 1920 годзе нарэшце ўрад (—пад націскам сялянства і эканамічных патрэбаў—) пачаў рабіць зямельную рэформу.

Але і тут зямельная рэформа, зробленая варожымі сялянству буржуазнымі рукамі, страшэнна скрыўдзіла запраўднае бяднейшае сялянства. Зямлю, як гэта праектуецца і ў Польшчы, захапіла пераважна вясковая буржуазія дый чыноўнікі... Але ў кожным разе каля 2 мільёнаў дзес. зямлі было адабрана ад абшарнікаў, праўда па спэкуляцыйна высокай цане. Абшарнікі наагул затрымалі ў сваіх руках чацьвертую частку былых маемасьцяў. Затрымалі, зразумела, найлепшую зямлю, якую далей аддаюць у арэнду сялянству на варунках папросту кабальных. Дзякуючы адабраньню зямлі ад паноў за выкуп, атрымаўшае зямлю сялянства трапіла толькі з аднэй няволі ў другую: з няволі баярам-абшарнікам у кабалу банкам.

Не абыйшлося, зразумела, і без вялізарных надужыцьцяў з боку румынскіх урадоўцаў.

Дык у выніку ўсей буржуазнай „рэформы"—акурат такой, якую гатуюць у Польшчы эндэкі ў паразуменьні з пэпэсамі! — сялянства ня вельмі многа выйграла.. Сучасныя адносіны ў Румынскай вёсцы ў сярэднім гэткія: 65 проц. беззямельных, 25—30 проц.—сярэднякоў, 5—10 проц. — больш-менш заможных.

Сялянскія арганізацыі і партыі ў Румыніі наагул слабыя. Але, ня гледзячы на страшэнны тэрор на выбарах, сялянства правяло і праводзіць значную лічбу сваіх паслоў. Нажаль толькі, яны пасьля ў Сойме зьнюхіваюцца з пануючымі клюбамі, як пястоўцы дый вызваленцы ў Польшчы, і прадаюць сялянскую справу...

У Бэсарабіі — вельмі моцны каапэратыўны рух сярод сялянства, якое, як ведама, цягнецца да СССР і маральна падтрымліваецца Усходам...

Дамаганьні і лёзунгі арганізаванага партыйна сялянства ў Румыніі, як і ўсюды, аднолькавыя. Сялянская „лявіца" ў Сойме трэбуе запраўднай зямельнай рэформы, — адабраньня ўсей зямлі ў абшарнікаў, апрача 100 гэктараў, перагляду канстытуцыі, рэформы адміністрацыі, караў для злачынцаў-урадоўцаў і катаў-паліцыянтаў... Але, як і ў нас, гэтыя, як бачым, вельмі скромныя пажаданьні не спатыкаюць водгуку ў пануючай яшчэ дагэтуль буржазна-абшарніцкай большасьці (каліцыі...) Сойму, ня кажучы ўжо аб урадзе.

Як бачым, адзіная разьніца між абедзьвюма пекнымі і кахаючымі адна адну саюзьніцамі толькі ў тым, што ў Румыніі ўжо ёсьць кароль, аб якім так лятуціць асірацеўшае абшарніцтва Польшчы... Ведама-ж, што кароль — гэта перад усім крэпасьць абшарніцтва, дык—ня дзіва, што польскія абшарнікі бачаць усе беды ў краі ў тым, што ў Польшчы якраз гэтай крэпасьці няма...

## ХРОНІКА.

**Польскія навуковыя ўстановы і Беларускі Унівэрсытэт.** У бытнасьць у Заходняй Эўропе праф. Пічэты, рэктара Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту (ў Менску), з боку Кракаўскае Акадэмі Навук, Кракаўскага Унівэрсытэту, Львоўска-

га Гістарычнага Т-ва і другіх навуковых і культурных арганізацыяў Польшчы была выяўлена вялікая зацікаўленасьць Беларусьсю, асабліва-ж — Беларускім Дзяржаўным Унівэрсытэтам. Пры прадажы апошняму навуковых выданьняў усе гэтыя ўстановы зрабілі скідку з цаны іх па 40 - 50%% і запрапанавалі абменівацца навуковымі выданьнямі.

Некаторыя беларускія навуковыя выданьні Беларускім Унівэрсытэтам ужо пасланы ў Кракаў і Львоў. Спэцыяльны бібліографічны журнал у Кракаве мае ў найбліжэйшым часе зьмясьціць абшырную стацьцю аб беларускай унівэрсытэцкай бібліотэцы ў Менску.

Характэрна, што тыя-ж самыя польскія навуковыя ўстановы абсалютна ня цікавяцца беларушчынай, паскольку яна выяўляецца **ў межах Польскага гаспадарства!** Тут для іх няма ані беларускага пытаньня, ані беларускага народу, —хаця **да вайны і да ўваскрашэньня Польшчы** якраз Кракаўская Акадэмія распачала друк вельмі багатых беларускіх этнаграфічных матэрыялаў, сабраных нябожчыкам Фэдэроўскім у Горадзеншчыне. Цяпер, калі Горадзеншчына прызнана афіцыяльна „этнаграфічна-польскай зямлёй“, друк гэтае цэннае працы спыніўся... А шкада: Фэдэроўскі сабраў і часьцю зусім прыгатаваў да друку матэрыялу ажно на 14 томаў!

Можа-б гэтай справай зіцікавіўся Інбелкульт і—карыстаючыся з навязаньня зносін з Кракаўскай Акадэміяй—парупіўся-бы раздабыць рукапісы Фэдэроўскага ды надрукаваць іх?

**Водгук юбілею Янкі Купалы.** Чэская часопісь „Slovansky Prehled“ у апошняй кніжцы сёлетняга году адзначае юбілей Янкі Купалы, які спраўлялі Беларусы, і абяцуе пасьвяціць нашаму песьняру спэцыяльную стацьцю ў чародным нумары.

**Насьценны Беларускі Календар на 1926 год** выйшаў ужо з друку. На аркушу паперы (велічыня — разьверненая газэта) зьмешчаны сьвятцы (праваслаўныя і каталіцкія), 10 партрэтаў выдатнейшых беларускіх дзеячоў і пісьменьнікаў (Скарыны, Ів. Луцкевіча, Дунін-Марцінкевіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цёткі, Алеся Гаруна, Максіма Багдановіча, Зьмітрака Бядулі і Францішка Аляхновіча), ды інфармацыі аб галоўных беларускіх культурных, эканамічных і грамадзкіх установах, газэтах і журналах.

Календар павінен вісець у кожнай беларускай хаце на пачесным мейсцы!

**Пэпээсы ў ролі абрусіцеляў.** У Лунінцу пачаў выходзіць агітацыйны орган Партыі Польскіх Сацыялістаў „Красное Знамя“—**парасейску!**

Думаеце можа: гэта празначана для расейцаў? Нічога падобнага: якраз для беларусаў! І газэта польскіх „сацыялістычных“ абрусіцеляў сама гэтак прызнаецца да гэтага ў першым-жа нумары сваім:

„Нястача газэты ў зразумелай для вас мове здаўна была вялікай перашкодай у нашым змаганьні (з кім? з беларускасьцяй? —Рэд.) на ўсходніх крэсах Рэчыпаспалітай. З усіх бакоў пыталіся нас: чаму выдаем газэты ў расейскай мове, а не ў беларускай?—Таварышы! **Мы акуратна здаем сабе справу з таго, што вы—беларусы.** Але доўгія гады царскага рэжыму зрабілі сваё: навучылі вас чытаць і пісаць парасейску. Ня хочам **накідаць** вам тэй ці другой мовы (—навет роднай?!—Рэд.), пакідаем гэта нацыяналістам“...

Што гэта: ідыёцтва, ці прадстаўленьне, быццам беларускія сяляне ўсе такія ўжо ідыёты, што не зразумеюць цынізму паноў польскіх „сацыялістаў“, якія стараюцца **замацаваць ліхую спадчыну ад царскіх часоў і падтрымліваць накінутую нам гвалтам маскоўшчыну?!** Для кожнага-ж ясна, што мэта паноў пэпээсаў—разрываць нацыянальную еднасьць суцэльнага беларускага народу, і пад той час, як польскія эндэкі стараюцца нам гвалтам навязываць польскую мову і гэтак адрываць частку беларусаў да польшчыны, паны „сацыялісты“ робяць тое-ж шляхам абрусеньня!

**Нягоднае выступленьне.** Што „этычны“ рэдактар абшарніцкага „Słowa“ прымаў чыннае ўчасьце ў няўдалай павлюкевічаўска - дэфэнзыўнай інтрызе ў сувязі з справай „жывога нябожчыка“ Шалешкі, гэта для нас ня дзіва: абшарніцкая „этыка“ зусім дапускае падобныя рэчы. Ня зьдзівіла нас і тое, што якраз перад Калядамі „Słowo“ зьмясьціла „пісьмо“ Павлюкевіча, Якімовіча і Ул. Більдзюкевіча (кумпана Валэйшы) з нягоднай брахнёй і лаянкай па адрасу Беларускага Нацыянальнага Камітэту. Зьдзівіла нас толькі тое, што гэнае „пісьмо“ надрукаваў і орган польскай „дэмакратыі“ (Партыі Працы), ідэйна кіраваны паслом Хамінскім, „Kur. Wil.“.

Як відаць, паскольку гэта патрэбна дзеля „дэфэнзыўных“ мэт, польская „дэмакратыя“ ідзе рука ў руку з абшарнікамі і наймітамі дэфэнзывы.

Спадзяемся, аднак, што апошні пастулак ня пройдзе дарма ані паном рэдактарам „Słowa“ і „Kur. Wil.“, ані падпісаўшымся пад „пісьмом“ асобам. Усе яны за вулічную лаянку ў прэсе стануць перад судом і, спадзяемся, панясуць даўно заслужаную кару.

**Праявы камуністычнага руху.** „Słowo“ падае цікавыя весткі аб камуністычных выступленьнях у Дунілавіцкім і Слонімскім паветах.

У Дунілавіцкім пав. у ноч з 26 на 27 сьнежня былі параскіданы праклямацыі Ц. К. Сэкцыі Камуністычнае Моладзі Заходняе Беларусі.

У Слоніме—паміж местам і станцыяй чыгункі — на тэлеграфным дроце ў ноч з 24 на 25 сьнежня быў вывешаны чырвоны сьцяг з „антыпаньствовымі“ надпісамі ў беларускай мове.

**Праклянцьце Піліпу Морозову.** У нядзелю, 27 сьнежня, у Сьв.-Духаўскай царкве ў Вільні выкліналі „ojca Filipa Morozowa“, які, пасьля цэлага раду гадасьцей, закончыў сваю дзеяльнасьць на ніве „польскага праваслаўя“ тым, што прыняў каталіцтва.

**Стыхійная катастрофа.** У ночы з 23 на 24 сьнежня ў Вільні сталася нябывалая катастрофа. Ад масы сьнегу, які сыпаў цэлую ноч і абляпіў усе тэлеграфныя дроты, ды ад сільнага ветру — дроты гэныя паабрываліся і слупы паваліліся на зямлю цэлымі радамі. Гэтак у месьце зусім спыніліся тэлефонныя зносіны, ды яно аказалася адрэзаным ад усяго сьвету, бо тэлеграф ня мог працаваць. У некаторых пунктах места былі сарваны і дроты, што давалі з электрычнае станцыі ток дзеля асьвятленьня.

Страты вялізарныя.

Апрача Вільні, катастрофа пашырылася блізу на ўсю Віленшчыну, захапіла Наваградчыну ды ўчасьці Палескае ваяводзтва. Гэтак за адну ноч блізу ўся Заходняя Беларусь аказалася пазбаўленай тэлеграфнай камунікацыі.

Папраўка шкоды займе ня менш трох тыдняў.

## Пісьмы у рэдакцыю.

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Дазвольце цераз Вашу газэту падаць да ведама Беларускага Сялянскага Саюзу, і грамадзянства, што ў склад Часовага Выканаўчага Камітэту гэтага Саюзу (як аб гэтым паведамляла ў № 1 „Сялянская Ніва“), я не ўваходжу і што наагул адмаўляюся ад усякай актыўнай палітычнай працы, тым болей у партыі, якая яшчэ да гэтага часу не легалізавана.

Прыміце паважаньне

20/XII 1925 г. **Іван Пачопка.**

*Паважаны Грамадзянін Рэдактар!*

Не адмоўцеся ўдзяліць у Вашай часопісі мейсца ніжэйпаданым радком:

У нумары абшарніцкага „Słowa“ з 23 сьнежня надрукованы тры „інтэрвью“ ў справе адносінаў беларускага грамадзянства да пастановаў беларускае канфэрэнцыі ў Бэрліне і да ліквідацыі так-званага „ўраду БНР“. З найвялікшым зьдзіўленьнем знайшоў я сярод іх і нібы-то маю заяву, зробленую ў гэтай справе супрацоўніку „Słowa“.

Не ўваходзячы ў зьмест гэнае заявы, заяўляю, што ўся яна—**проста сфабрыкавана ад першага да апошняга слова**, бо з ніякім супрацоўнікам „Słowa“ **я ніякіх гутарак на гэту тэму ня вёў, і ніхто да мяне з просьбай аб інтэрвью ад рэдакцыі гэтае газэты не зварачаўся.**

Прачытаўшы „інтэрвью“, я ўраз-жа зьвярнуўся асабіста да рэдакцыі „Słowa“. Самога рэдактара, п. Мацкевіча, не знайшоў. Прыняў мяне сэкрэтар газэты, якому я і аддаў пісьмо з запярэчаньнем прыпісанае мне заявы. Сэкрэтар і яшчэ адзін супрацоўнік „Słowa“ абяцалі гэту справу выясьніць і ў той-жа вечар **прывясьці да мяне да хаты аўтара „фальшывага дакумэнту“ дзеля „очнае стаўкі“.**

Аднак, **ані ў той вечар, ані пазьней абяцанка гэная ня была споўнена**, з чаго відаць, што рэдакцыя і бяз гэтага пераканалася ў машэнстве свайго працаўніка. Здавалася-б, што нішто не магло ўжо перашкодзіць зьмяшчэньню майго пісьма. Аднак, мінае ўжо тыдзень ад надрукаваньня фальшывага інтэрвью, выйшлі ўжо два нумары „Słowa“, **а запярэчаньня хлусьні няма.**

Вывады з гэтага хай зробіць само грамадзянства, журналісты якога аж гэтак нізка маральна апусьціліся.

Вільня, 29. XII. 1925.

З пашанай **Ант. Луцкевіч.**

## Карэспандэнцыі.

### Мэдыцынская помач на вёсках Беларусі.

(Баранавіцкі і Нясьвіжскі паветы).

Многа яшчэ ў вёсках нашае Зах. Беларусі цемнаты, многа гора, беднаты. Але ніхто ня хоча прыйсьці на помач, ніхто ня рупіцца асьвяціць дарогу нашаму гаротнаму сялянству, ніхто не мяніцца адкрыць яму вочы. Мусіць, многія думаюць, што лягчэй будаваць свае асабістае шчасьце на цемнаце і няшчасьці другіх...

Хто і як ня зьдекуецца з беднае мужыцкае вёскі?

Возьмем для першага разу, напрыклад, лекі. Колькі ў нас да гэтага часу яшчэ ёсьць варажбітаў, знахарак, ведзьмароў, шаптухаў?! Амаль ня кожная вёска мае такога цудатворнага „дохтара“. Чым і як яны лечаць?

Адна баба-знахарка лечыць ад усялякіх хваробаў настойкаю гарэлкі на дажджавых чарвяках або на маёвых хрушчох, даючы яе піць, націрацца і мазацца хворым. Другая курыць кнотам ды дае піць з гарэлкаю попел ад спаленага кноту. Трэйцяя смаліць валасы хворага на грамнічнай сьвечцы, дае нюхаць хвораму, а пасьля поіць гарэлкаю, запраўленаю попелам ад спаленых валасоў; кажа закусіць якім-небудзь сухаром цьвілым Сьв. Агаты, а чыстую гарэлку, як добрую рэшту ад лякарства, выпівае сам „дохтар“, заядаючы багатаю закускаю, прывезенаю пацыентам. Пры гэтым нашы цудатворцы хрысьцяцца, моляцца, хваробу й гарэлку сьвенцяць і г. д. Іншыя—лечаць мёдам, якога вымагаюць ад хворага 2—3 гаршкі. Бяруць па крышачцы мёду з кожнага гаршка, смаруюць хворае месца, змываюць вадою, а найбольш гарэлкаю, ды кажуць выпіваць. На лекі йдзе воўна з белае, або чорнае авечкі, стары здор, або жывое стракатае парася, зязюлястая курыца, аўчыны, палотны і г. д.

Часамі хворы, па загаду такога „дохтара“, пралазіць праз яму пад мяжою, праз цесны абруч, пад падрубу, вароты, ды скідае там сваю вопратку, каб пакінуць з ёю і хваробу. Усе гэтыя лекі памагаюць надта добра, але ведама—ня хворым, а варажбітам, бо ўсе гэтыя лякарствы, грошы і цудатворная гарэлка йдзе ім на карысьць.

Вось на гэта ніхто, хто й мае права й абавязак, ня хоча зьвярнуць увагу і забараніць баламуцтва, а, наадварот, памагае пашырацца такому ашуканству. Так, напрыклад, у Баранавіцкім і Нясьвіжскім павеце павятовыя дахтары бяруць падпіскі, забараняючы лячыць усім, навет і практычным старым пунктавым і валасным фэльчаром, каторыя, як кажуць, зубы зьелі на гэтай працы. Ды як можна пазбавіць вёску на месцы лекарскай помачы, не замяніўшы яе адпаведнай новай! Як можна адабраць апошні кусок хлеба ад людзей, якія аддалі ўсё жыцьцё гэтай працы, ды на старасьці да другое працы ўжо нyздольны і ня маюць за сваю службу ніякае „эмэрытуры“? А варажбітам муціць і ашукваць людзей ніхто не забараняе.

А як з вёскі, часта бяз грошай, дабрацца да павятовага места за вёрст 30—40? Як дабіцца да вяльможнага пана дохтара, які часта, спадзяючыся на сваю лекарскую спрытнасьць, слухае хворых ня трубкаю і вухам, а цераз шырокі стол, не падыходзячы да хворага і не кратаючыся з мяккога крэсла? Лёгка напісаць забарону праз камэнданта паліцыі, але як быць на вёсцы пры кожным сьпешным выпадку, і як быць тым, хто ня мае за што зуб працерабіць?—Адкажэце на гэта!

Трэба наперад прыгатаваць грунт, а тагды ўжо сеяць.

**„Тутэйшы“.**

## Паштовая скрынка.

**Гардзею Смольскаму.** Маеце аплочана па 1./III 1926 год.

**І. Гогану.** Калі „Б. Н.“ мае паміж Вамі шмат чытачоў, то будзем высылаць яе і надалей, не вымагаючы платы.

**Падпішчыку № 2007.** 2 зл. атрымалі 7./XII. паквітаваньне было ў № 10. Апроч гэтага, належыцца ад Вас 3 зл. да новага году.

**Якубу Лоньку.** Газэту высылаць будзем. Доўг выкасоўваем.

**К. Радіуку.** 4 зл. у чэрвені ад Вас атрымалі, а цяпер 10 зл., маеце аплочана па 15./I. 1926. год.

**Адаму Калюціку.** Ліст і грошы атрымалі. Даўгамі не клапаціцеся, калі зможаце — вернеце. Газэту з ахвотай будзем высылаць пакуль-што бясплатна. Карыстайцеся і распаўсюджвайце.

**Падпішчыку № 1720.** Газэты ня спынім. Карыстайцеся самі і другім давайце.

**Падпішчыку № 234.** Газэту высылаем і далей; калі зможаце, тады і заплоціпе.

**Уладыславу Даніку.** Ад Вас мы атрымалі 4 зл. 3-га красавіка. Газэты ня спыняем; як змсжэце то доўг адашлеце.

**П. М. Мальку.** Газэту высылаем не спыняючы.

**Падпішчыку № 377.** Да новага году ад Вас належыць 4 зл.

**Аляксандру Марчуку.** Рахунак высланы Вам праз памылку; ад Вас нічога не належыцца. Маеце апочана па 15./II. 1926 г.

**Падпішчыку № 1572.** Газэты спыняць ня будзем; карыстайцеся ею і надалей. Як папpавяцця Вашыя абставіны, то калі-небудзь заплоціце.

**Падпішчыку № 915.** Газэту на імя І. Міхальчыка—спыняем. Вам і надалей будзем высылаць па 3 экз. Рахунак быў высланы толькі за 1-н экз. На грошы пачакаем.

**Станіславу Юшкевічу.** Ад Вас атрымана 7 зл. Маеце аплочана па 15/II—26 г.

**Атрымана:**

Ад: — Юльяна Стрыхара, Арк. Анішчыка, Язэпа Будрыка, Мікалая Губэрта, Аляксандра Пахвіцэвіча, Тамаша Шэйна, Антона Пісарава, Аляксея Кузьміча, Аўгена Мамчыца, Шпачка, Аляксандра Андрюкевіча, Язэпа Маліноўскаго, Сымона Сяляўкі, С. Забаўскага, С. Мазурэка, Рыгора Міхайлова, Вінцэнтага Семашкі, Мікалая Ламекі, Яна Трашчоткі, Рамана Беганскаго, Цімафея Булгака, Мікалая Шчуцкага—**па 2 зл.**

Ад: — Аляксадра Вашкевіча і Яна Згрунды — **па 3 зл.**

Ад: — Андрэя Ваўніка, Юстына Мурашкі, І. Барысёнка, Уладзімера Шахоўскаго, Леаніда Бялькевіча, Наваграва, Міхала Шырко, М. Скуркі, Яна Корчыка, Базыля Зыгаліна, Паўла Сэргуна, Уладзімера Балкоўскаго — **па 4 зл.**

Ад: — Ул. Вішнеўскага, Пятра Мышкі, кс. Яна Яцкевіча, Макара Сокалава, П. П. С. у Пінску, Аўгеньні Сухой, Адама Мілюка, Адама Калюціка, Мікалая Жыбуртовіча, Міхала Кулакоўскага — **па 5 зл.**

Рэдактар-Выдавец: **Ян Марцінеўскі.**

Друкарня **Н. Левін і Сын**, Вільня, Нямецкая 22.